# КРЫВІЯ

Выданьне беларускае дыяспары ў Чэхіі

№24 Сьнежань 2011 - Люты 2012

Культурна-асьветніцкая газэта

## ЗЬМЕСТ



### Архівы беларускіх выданьняў на Сеціве

Дарагія суродзічы!

Гэты - апошні нумар **КРЫВІІ (№ 24)** ў фармаце PDF а таксама й папярэднія нумары (10-23) можаце лёгка сьцягнуць (спампаваць) з сеціўнай старонкі

**http://thepointjournal.com/**

## Беларуская Чэхія

# Апошні ліст Вацлава Гаўла

**У сьнежні летась, пасьля арыштаў сотняў удзельнікаў пратэстаў супраць прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі, мы папрасілі вядомых палітыкаў, літаратараў, філёзафаў з усяго сьвету прачытаць імёны людзей, якія апынуліся за кратамі.**

**Джордж Буш** адкрываў чытаньне, а **Вацлаў Гавэл** завяршаў сьпіс – я папрасіў яго прачытаць імёны, якія пачынаюцца на апошнюю літару алфавіта, «я»:

**Вацлаў Гавэл, колішні , былы прэзыдэнт Чэхіі**

Напярэдадні гадавіны тых падзеяў я ізноў зьвярнуўся да Вацлава Гаўла з просьбай – павіншаваць з Новым годам, Калядамі палітычных зьняволеных у Беларусі. Я таксама прасіў аб аўдыёзапісе віншаваньня, ці нават відэазапісе.

З канцылярыі Гаўла мне напісалі, што былы прэзыдэнт чуецца дрэнна, здароўе ў вельмі трывожным стане, і наўрад ці ён зможа прачытаць пасланьне ці зрабіць відэа – але тэкст ён напіша.

У чацьвер, 15 сьнежня, я атрымаў тэкст віншаваньня Гаўла. Яго супрацоўнікі прасілі парады – як найлепш даставіць яго палітвязьням. Я адказаў, што найлепш – паслаць па пошце, адсюль з Прагі. А са свайго боку паабяцаў, што прачытаем віншаваньне ў эфіры. Мы пераклалі тэкст на беларускую, сабралі адрасы калёній, дзе адбываюць пакараньне палітвязьні, і паслалі іх Гаўлу – гэта адбылося ў той самы чацьвер. Я прасіў таксама, каб у рэдакцыю прыслалі копію падпісанага ліста, каб апублікаваць на сайце.

У нядзелю Гавэл памёр. У гэты момант я ня ведаю, ці пасьпеў Гавэл у пятніцу ці суботу

падпісаць лісты на імя **Мікалая Аўтуховіча**, **Зьмітра Бандарэнкі**, **Алеся Бяляцкага**, **Зьмітра Дашкевіча**, **Эдуарда Лобава**, **Андрэя Саньнікава**, **Паўла Севярынца**, **Міколы Статкевіча**.

Але сёньня, не чакаючы Новага году, мы друкуем яго апошняе віншаваньне, адрасаванае ў Беларусь. Верагодна – гэта самы апошні тэкст, які ён напісаў у сваім жыцьці.

*Градэчэк, 15 сьнежня 2011*

*Дарагія сябры,*

*Хацеў бы сардэчна вас павіншаваць на парозе новага году і пажадаць вам і вашым блізкім, каб ён быў лепшым, чым мінулы. Выказваю салідарнасьць з вашай пазыцыяй і буду і надалей выкарыстоўваць усе магчымасьці, каб разам са сваімі сябрамі зьвяртаць увагу міжнароднай грамадзкасьці на парушэньне грамадзянскіх правоў у Беларусі.*

*Жадаю усяго добрага вам і свабоды вашай краіне.*

*Вацлаў Гавэл*

Падпісваючы свае лісты, Гавэл заўсёды маляваў




**Крыніца:** Аляксандар Лукашук - Радыё Свабода, 18.12.2011



*Сьв. памяці **Вацлаў Гавэл***

**ВІНШУЕМ з НАРОДЗІНАМІ!**

у ЛІСТАПАДЗЕ:
Адася Калюту

у СЬНЕЖНІ:
Макса Шчура
Кірыла Касьцяна
Алеся Судлянкова

у СТУДЗЕНІ:
Вольгу Вінакураву

у ЛЮТЫМ:
Сьвету Гвазьдзіцкую,
Мікалая Вінакурава

# КУЛЬТУРНЫЯ ІМПРЭЗЫ

## суполкі "ПАГОНЯ"

***лістапад 2011 - люты 2012***

*** 2 лістапада 2011**
Паказ фільмовай стужкі
**ПТУШКІ БЯЗ ГНЁЗДАЎ.**
на матывах аўтабіяграфічнай кнігі "СПОВЕДЗЬ" ведамай беларускай паэткі ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ.
Вытворца : Беларусьфільм, 1996 г.

*** 4 лістапада 2011**
Вечарына **Шальмоўскага Тэатру ДыГрыза.**

Нашым госьцем быў сп. Аляксей "Бекар" БУРНАСЕНКА, дырэктар і заснавальнік гэтага вулічнага тэатру.

Праект Шальмоўскі Тэатр ДыГрыза створаны ў 2005 г. — займаецца рэканструкцыяй і пастаноўкай у 21-ым стагодзьдзі тэатральнай і карнавальнай культуты Эўрапэйскага ( асабліва беларускага ) Сярэднявечча. У рэпэртуары тэатру: беларускія, балтыйскія, кельцкія й скандынаўскія традыцыйныя танцы.

На вечарыне была наладжана навука беларускіх сярэднявечных танцаў пад музыку на сапраўднай сярэднявечнай дудзе...

*** 16 лістапада 2011**
Прагляд фільму **Радыёактыўныя ваўкі Чарнобылю**.

Фільм распавядае пра стан дзікіх жывёлаў, што жывуць у лясох блізка Чарнобылю.

Ён быў названы адным зь лепшых фільмаў пра дзікую прыроду на кінафэстывалі Jackson Hole Wildlife Film Festival ( ЗША).

*** 4 сьнежня 2011 г.**

У праскім Доме Нацыянальных меншасьцяў адбыўся беларускі калядні вечар, спэцыяльным госьцем якога быў знакаміты айчынны гурт сярэднявечнай музыкі "Стары Ольса".

Гэтая культурніцкая акцыя была зладжаная суполкай "Пагоня", што задзіночвае беларусаў Чэхіі, пры мэдыяльнай падтрымцы часапісу "Belarusian Review" і "Крывіі" – газэты беларускай грамады ў Чэскай рэспубліцы.



*Гурт СТАРЫ ОЛЬСА*
*і арганізатары канцэрту*

На канцэрт былі запрошаныя прадстаўнікі Рады ў справах нацыянальных меншасьцяў пры Ўрадзе Чэскай рэспубліке, а таксама прадстаўнікі арганізацыяў нацыянальных меншасьцяў, што жывуць у Чэхіі. Для шырэйшага знаёмства зь беларускай культурай і традыцыямі перад канцэртам для прысутных гасьцей была зладжаная прэзэнтацыя

традыцыйных беларускіх Калядаў, а заля была аздобленая фотаздымкамі з краявідамі Беларусі.

*** 22 сьнежня 2011 г.**

Чэскія беларусы сустрэліся на Праскім Градзе, каб ушанаваць памяць былога прэзыдэнта Чэхіі, Вацлава Гаўла і аднесьці жалобны вянок да ягонай труны.

*** 11 студзеня 2012 г.**

Канцэрт ведамага беларускага сьпевака, музыкі й кампазытара **Сяргея Доўгушава.**

Сп. Доўгушаў прасьпяваў шэраг беларускіх народных песьняў, а таксама свае кампазыцыі на вершы У. Караткевіча й А. Сыса : суправаджаў яго на акардыёне мясцовы беларускі музыка Алесь Ясінскі.



*Сяргей Доўгушаў*
*і баяніст Алесь Ясінскі*



***Дробненькі дожджык..**.*
*у выкананьні*
*С. Доўгушава (на гітары ),*
*А. Ясінскага (на баяне)*

## На Раство ў Празе маліліся й калядавалі

На сьвята Раства Хрыстовага 25 сьнежня ў праскай царкве сьвятых Кузьмы і Дзям'яна адбылася сьвяточная Літургія, якую адслужыў уніяцкі сьвятар айцец Андрэй Абламейка.

Пасьля набажэнства ў прыцаркоўнай тэатральнай залі сьвяты Мікалай раздаў прысутным дзецям падарункі і перадаў іх праз сваякоў тым дзецям, што па розных прычынах не прысутнічалі на сьвяце.



*25-га сьнежня:*
*сьв. Мікалай зь дзецьмі*

Адбылася таксама сяброўская гасьціна з чаем і пачастункамі.

Навіной сёлетняга адзначэньня Калядаў у Празе стала сапраўдная Каляда. У якасьці музычнага суправаджэньня была выкарыстана старажытная беларуская дуда.

У часе Літургіі і ў часе Каляды гучалі аўтэнтычныя беларускія сьпевы.

25 і 26 сьнежня калядоўшчыкі зь ліку праскай беларускай моладзі на дзьвюх машынах абʼяжджалі семʼі праскіх беларусаў.

**Крыніца:** Радыё Свабода, 26.12.2011



*КАЛЯДОЎШЧЫКІ*
*ў Празе*

# Чэскі часапіс RozRazil новы нумар цалкам прысьвяціў Беларусі

**У Чэхіі пабачыў сьвет новы нумар часапісу "RozRazil", які цалкам прысьвечаны Беларусі. Праца над матар'яламі пачалася яшчэ ўвесну мінулага году.**

Рэдакцыя прапанавала падрыхтаваць такі нумар вядомаму беларускаму перакладчыку са славянскіх моваў **Сяргею Сматрычэнку**. На 120 старонках вядзецца расповед пераважна пра культуру Беларусі, але ёсьць палітычныя і сацыялагічныя матар'ялы.

*- У нумары ёсьць сталая часопісная рубрыка "круглы стол". У беларускім нумары быў "круглы стол" на тэму свабоды творчасьці. Ёсьць там таксама розныя матар'ялы эсэістычнага і публіцыстычнага плану, напрыклад, гутарка з Валянцінам Акудовічам пра ментальнасьць беларусаў. Потым там ёсьць падборка вершаў маладых беларускіх паэтаў, зьмешчаныя вершы 11-ці паэтаў. Часапіс багата ілюстраваны, у тым ліку ілюстрацыямі беларускіх аўтараў, фотаздымкамі перадусім.*

Часопіс "RozRazil" выходзіць дзякуючы выдавецтву Větrné Mlýny. Рэдакцыя яго знаходзіцца ў Брне. Аўтарамі беларускага нумару сталі пераважна маладыя беларускія літаратары – Віталь Рыжкоў, Тацьцяна Нядбай, Андрэй Адамовіч, Віталь Воранаў, Ігар Кулікоў і іншыя. Са старэйшых аўтараў прадстаўленыя Уладзімір Някляеў, Альгерд Бахарэвіч, Андрэй Хадановіч.

**Крыніца:** Васіль Кроква**,** Радыё Рацыя, 16-01-2012




• ***ВІНШУЕМ!*** Кірыла Касьцяна, сябру рэдакцыйнай калегіі часапісу *Belarusian Review*." Ягоная перадавіца пад назовам "Assisting a Little-known Nation", зьмешчаная ў нумары часапісу за Восень 2011, здабыла 3-цяе месца ў спаборніцтве ладжаным арганізацыяй " Інфармацыйны Офіс Салідарнасьці эь Беларусьсю" у супрацы з "Press Club Polska"

• ***ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ!*** сп-ні Сьвятлане Вранавай (Vránové) за ейнае рэгулярнае зьмяшчаньне чэска-моўнага матар'ялу пра рэпрэсіі беларускіх дэмакратычных актывістаў лукашэнкаўскім рэжымам, на сеціўнай старонцы "Svobodné Bělorusko" - а таксама ў часапісе ".Život Víry." Гл. нумар часапісу за лістапад 2011 (www.zivotviry. cz)

## НАВІНЫ з Бацькаўшчыны

## РАСЕЯ: ЯДУЦЬ САБАК І КАТОЎ

**Лістападаўскі Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ**

13 лістапада сёлета ў Менску адбыўся чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Сойм заслухаў даклад сп. Зянона Пазьняка, Старшыні Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ – "Вось за гэта і пакараньне" (будзе апублікаваны). З дакладам выступілі сп. Юры Беленькі, выканаўца абавязкаў у Беларусі старшыні Фронту і Партыі, і сп. Сяргей Папкоў, намесьнік старшыні Фронту і Партыі.

Выступоўцы адзначылі, што ўсё больш людзей у нашай краіне бачаць тупіковасьць палітыкі антыбеларускага рэжыму. Беларусы разумеюць, што рэжым ня робіць ніякіх канструктыўных захадаў для вываду краіны з крызісу. Палітыка лукашызма ва ўсіх сфэрах жыцьця застаецца нязьменнай: весьці Беларусь да катастрофы.

Даведзеная да абсурду эканоміка ня вытрымлівае канкурэнцыі з разьвітымі краінамі, яна ня мае пэрспэктывы. У культуры і адукацыі назіраецца стагнацыя больш глыбокая і грунтоўная, чым яна была пад савецкай сістэмай. Лукашысцкія "эліты" дэманструюць сваю поўную бяздарнасьць, непрафэсійнасьць і неадпаведнасьць задачам. Тое, што ва ўсіх сфэрах жыцьця пануе маразм, прызнаюць нават многія асобы, якія працуюць у структурах рэжыму. Найбольш кемлівыя зь іх імкнуцца пакінуць гэтыя структуры і такім чынам скінуць з сябе адказнасьць за развал.

Ратаваць нашу народную гаспадарку, адукацыю і культуру павінны іншыя людзі: сапраўдныя прафэсіяналы, патрыёты Беларусі, сумленныя людзі. У краіне павінна існаваць беларуская ўлада. Такая зьмена можа адбыцца толькі палітычным спосабам. Але палітычныя зьмены павінны быць падрыхтаваны беларускім асьветніцтвам нашых людзей, шляхам гуртаваньня вакол нацыянальнай Ідэі. Дэмагагічныя заявы аб тым, што "спачатку трэба накарміць народ, а потым настане час ідэяў, мовы і культуры", абвергнуты жорсткай рэчаіснасьцю нашага цяперашняга жыцьця: пад антычалавечым прамаскоўскім рэжымам няма культуры, а матар'яльнага дабрабыту таксама не стварылі.

Выступілі таксама сябры Сойму з розных рэгіёнаў краіны. Яны паведамілі пра драматычнае становішча многіх беларускіх сем'яў. Людзям ужо не хапае мізэрных заробкаў, каб пракарміць дзяцей. Многія работнікі зьязджаюць у Расею, каб зарабіць грошай. Але некаторыя зь іх ужо вярнуліся з гэтых "заробкаў". Яны распавялі пра эксплуатацыю і зьдзек з "гастарбайтэраў" у маскоўскай імпэрыі. Работнікаў цынічна падманвае расейская адміністрацыя, яны становяцца ахвярамі нападаў крымінальных

структураў. Работнікі недаядаюць, жывуць у жудасных умовах, ім ня выплочваюць заробленыя грошы.

З розных канцоў нашай краіны паступаюць трывожныя зьвесткі. На рынках гандляры пачалі прадаваць тухлае мяса (людзі называюць гэта “дыхляцінай”). Гандляры ўжо ня крыюцца і прапануюць свой “тавар” па значна ніжэйшых коштах, чым якаснае мяса. Людзі ведаюць пра якасьць “тавару” і становяцца ў чэргі, каб набыць небясьпечны для здароўя прадукт. Між сабой людзі дзеляцца рэцэптамі, колькі часу трэба варыць гэтае “мяса”, каб яно было прыдатным да ежы і г.д. Тыя, што вярнуліся з заробкаў у Расеі, распавядаюць, што нават у Маскоўскай вобласьці людзі масава ядуць сабак і катоў (там сытуацыя яшчэ горшая).

Даведаўшыся пра заклікі дыктатуры ўтвараць “тэрытарыяльную армію”, “ісьці ў партызаны”, што “будуць раздаваць кулямёты і гранатамёты”, беларусы ў розных рэгіёнах краіны адрэагавалі на гэта аднолькава. Мужчыны засьмяяліся і выказалі камэнтары ня выбіраючы словы. Людзі кажуць, што як трэба, то зброю возьмуць, але за лукашызм ваяваць ня будуць. Усе чакаюць, якую яшчэ правакацыю наладзіць антыбеларускі рэжым, які знаходзіцца ў стане паўраспаду.

Сойм разгледзеў мерапрыемствы асьветніцкай праграмы.

**Інфармацыйная камісія Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне” і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, 13 лістапада 2011 г.**

# “ВОСЬ ЗА ГЭТА І ПАКАРАНЬНЕ”

*Вытрымкі з дакладу Зянона Пазьняка*

У апошні час антыбеларускі рэжым перастаў маскавацца пад законнасьць і пачаў адкрыта дэманстраваць рэпрэсіўную вайну супраць беларускага народа і яго лепшых прадстаўнікоў.

Вайна пачалася адразу з 1994 года (пачатак ўлады Лукашэнкі), але да 19 сьнежня мінулага году этнацыд маскавалі пад змаганьне з “апазыцыяй” і ўсімі, “хто супраць прэзыдэнта”. Пасьля 19-га сталі хапаць і біць усіх, хто трапляўся пад руку і пад падазрэньне КГБ. Выконваецца задача, падобная да вайсковай апэрацыі: прэвентыўная зачыстка сацыяльнага поля грамадзтва і ўсяленьне страху ў сьвядомасьць нацыі.

Пад гэтую тыпова акупацыйную задачу падганяюцца і рэжымныя “законы”, ацэнкі і дзеяньні.

... У 2008 годзе інсьпіраваны “тэракт” даў падставы ўзурпатару распачаць татальную дактыласкапію беларусаў. Такая мера ёсьць складовай часткай палітыкі этнацыду, якую адкрыта робіць рэжым (насаджэньне страху, кантроль над асобай).

... На цяперашнія паводзіны ўзурпатара ўплываюць два зьнешнія чыньнікі: пазыцыя Расеі (якая пачала яго ў кут) і разгром рэжыму Кадафі ў Лібіі. Паранойная рэакцыя на гэтыя раздражняльнікі спарадзіла тыпова паранойную логіку і адпаведныя дзеяньні па абароне ад небясьпекі (тэрытарыяльная абарона, новае 120-тысячнае войска, ваенізацыя ўладнай вертыкалі, падрыхтоўка да партызанскай вайны, пазыцыянаваньне сябе ў ролі ваеннага стратэга, галоўнакамандуючага, спасылкі на падкопы “сусьветнай закулісы” і г. д.).

Трэба мець на ўвазе, што рэжым узурпатара ўлады ў Беларусі не праводзіць нацыянальнай дзяржаўнай палітыкі. Гэта тып адзінапічна-карпаратыўнай улады, якая прыватызуе дзяржаву ў сваіх інтарэсах. Уся палітыка такой улады прадыктаваная гэтымі яе прыватнымі інтарэсамі.

Па аналагічнай схеме была пабудавана ўлада Кадафі з той істотнай розьніцай, што Лібія – рэсурсная (нафтавая) краіна, і дыктатар не зьнішчаў шматаблічную культуру сваёй нацыі. Канцэпцыя ягонай улады грунтавалася на клясычным фашысцкім падыходзе. Правадыр і ягоная група ўлады забясьпечваюць грамадзтву матэрыяльны дабрабыт і гарантаванае сацыяльнае існаваньне (і Кадафі забясьпечыў тое), але адлучаюць народ ад удзелу ў кіраваньні дзяржавай, ад палітыкі і свабоды (маўляў, за народ паклапоціцца фюрэр). Аднак людзі, калі яны не апускаюцца да “скоцкага” стану (ад купалаўскага “ня быць скотам”), рана ці позна пачынаюць змагацца за свабоду.

... І цяпер трэба ўсё ж пагаварыць пра тое, пра што мне ніколі гаварыць не хацелася з прычыны грамадзкай бяссэнсавасьці такой гаворкі – пра нашу нацыянальную ганьбу і сорам.

Як так сталася, што разумны працавіты народ разьвітай краіны з індустрыяльным грамадзтвам, адукаваным насельніцтвам і інтэлігенцыяй, з высокай гістарычнай культурай паставіў над сабой і надзяліў уладай вар’ята, хама, паранойную асобу, чалавека неадэкватнага, злога, амаральнага, бескультурнага, неадукаванага, які адкрыта выказваў нянавісьць да мовы, культуры, свабоды і незалежнасьці народа, таго народа, які яго выбіраў. І гэта ў краіне, якая толькі што здабыла незалежнасьць. Парадокс, сюррэалізм, абсурд – але факт.

... Дэнацыяналізацыя, нацыянальная няразьвітасьць сьвядомасьці і нацыянальная сьлепата такая ж (і нават больш) небясьпечная грамадзкая паталогія, як і агалцелы, ірацыянальны вялікадзяржаўны (гітлерскі) шавінізм. Гэта ёсьць жыцьцё бяз волі і нежаданьне свабоды.

Нікому не магло нават прысьніцца ў страшным сьне, што такая асоба стане прэзыдэнтам незалежнай Беларусі. Увесь яго дэвіянтны спосаб захаваньня, паводзіны і логіка думаньня цалкам укладваліся ў псіхічны эпікрыз паранойі. Мала хто ў гэтым сумняваўся, але сур’ёзна не адносіліся. З паранойяй жыве мноства людзей, працуюць, псуюць кроў супрацоўнікам і суседзям, жонцы, мужу, дзецям, сварацца, б’юцца, судзяцца, пішуць кляўзы і творы мастацтва. Але адна справа -- дырэктар саўгаса, іншая – прэзыдэнт краіны. Апазыцыя БНФ (выступаў Сяргей Навумчык) нават паставіла пытаньне аб прыняцьці пастановы Вярхоўнага Савета пра

абавязковае медыцынскае абсьледваньне Лукашэнкі, але дэпутаты-камуністы завалілі гэтае пытаньне.

Неверагоднае адбылося, бо ў тым дэнацыяналізаваным грамадзтве, якое засталося ў спадчыне ад камунізму, такое магло стацца: Лукашэнку зрабілі прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь.

І цяпер -- якія вынікі (а вынікі ўжо ёсьць) гэтага грамадзкага асьляпленьня? (Я кажу “грамадзкага”, бо вынікі немагчымыя былі пры адным Лукашэнку. Дзеля гэтага патрэбная была маніпуляцыя грамадзтвам і мільёны лукашэнак.)

... Палітыка антыбеларускай хунты пабудавана на антыбеларускасьці, нянавісьці, хлусьні, хамстве, страху і рэпрэсіях.

Груба парушаная Канстытуцыя і суверэнітэт Беларусі – ліквідаваная дзяржаўная мяжа на ўсходзе (а гэта выбраная пагроза незалежнасьці); заключаныя незаконныя антыканстытуцыйныя пагадненьні аб незаконнай “саюзнай дзяржаве” з Расеяй, што кваліфікуецца як здрада Радзіме, і дало магчымасьць чужой дзяржаве бесперашкодна сьцягваць і забіраць беларускую рабочую сілу, рабаваць таварны рынак, беларускую маёмасьць і тэрыторыі, кантраляваць сістэму ўлады і працэсы ў краіне. Гэта злачынства, якое патрабуе вышэйшага абавязковага пакараньня.

Грунтоўна падарвана нацыянальная культура, дыскрымінавана беларуская мова, вынішчана беларуская школа і адукацыя, кнігавыдавецтва і пэрыядычны друк, ліквідавана нацыянальнае радыё і тэлебачаньне, падарвана мараль і дэмаграфія, навука і мастацтва, заведзена ў тупік эканоміка, дэзарганізавана фінансавая сістэма. Усе гэтыя разбурэньні нацыянальнага жыцьця значна глыбейшыя і больш зьнішчальныя, чым былі яны зроблены за 73 гады савецкай акупацыі.

За гэты цёмны час дно зрабілася верхам. Людзі неадукаваныя, цёмныя, прымітыўныя, злыя, малакультурныя, – сталі начальнікамі, падняліся ў гару ва ўладу, сталі кіраваць нацыяй, гарадамі, раёнамі, адукацыяй ды культурай. Палітыка, узгадаваная на паранойнай нянавісьці, раскалола беларускае грамадзтва і ўнесла гэтую ірацыянальную нянавісьць у рэальнае жыцьцё людзей. Зроблена вялікае злачынства. Народ не павінен ненавідзець -- сябе.

... Другім жахлівым вынікам паранойнага рэжыму ёсьць ліквідацыя грамадзкіх ідэалаў (і ўвогуле – ідэалаў). За 17 гадоў ненармальнасьці страчана цэлае пакаленьне беларусаў. Зьявілася шмат людзей з заніжанай жыцьцёвай арыентацыяй, без духоўных запатрабаваньняў і з “псіхалогіяй травы”.

У адным з артыкулаў журналістка Сьвятлана Калінкіна прыводзіць вымоўную статыстыку конкурсных запатрабаваньняў пры паступленьні ў вайсковыя вучэльні. Самыя вялікія конкурсы жадаючых – не на лётчыкаў, а ва ўнутранае войска, у ахову і на вайсковыя спэцыяльнасьці тылу. Юнакі страчанага пакаленьня імкнуцца стаць турэмшчыкамі і тылавымі пацукамі, інтэндантамі, каб зарабляць і не рызыкаваць. Турэмшчык – прэстыжная прафэсія!

Жыцьцё ў несвабодных умовах, у штодзённым, інсьпіраваным зьверху хамстве, у дэфармаванай небеларускай школе і ўнівэрсытэце рэзка абнізіла культуру, веды і адукацыю несвабоднага пакаленьня беларусаў. Сорамна казаць, але на Захадзе іх адразу пазнаеш па бескультур’ю, няўменьні сябе паводзіць зь людзьмі і няведаньні роднай мовы.

Вынік рэжыму – катастрафічнае разбурэньне і дэградацыя беларускай вёскі, пашырэньне п’янства, падрыў этнічнай асновы народа.

... Але самы цяжкі вынік этнацыду і паранойнай сістэмы ўлады ёсьць усё ж пакаленьне бяз ідэалаў, бяз мовы, бяз гонару, бяз сьведамасьці і нацыянальных абавязкаў.

Зрэшты, усё гэта, хоць і вялікая, але пасыўная частка пакаленьня (і ў цэлым – зьявы). Ёсьць шмат моладзі, якая актыўна не ўспрымае ўзурпатара і ягоную палітыку, якая шукае ідэалы існаваньня і знаходзіць іх у вольнай Беларусі, за якую трэба змагацца. Гэтая моладзь, як пасталее, як бы ня нішчыў яе рэжым, вызначыць будучыню краіны.

Цяпер, калі ўзурпатар пачаў адкрытую прэвентыўную вайну з народам, ужо нават самыя цьвёрдагаловыя **пачынаюць разумець, што хадзіць на выбары і падтрымліваць рэжым ня трэба, што тактыку абструкцыі і байкоту рэжыму трэба было пачынаць даўно.**

Зараз вельмі істотна хутка накапіць нацыянальныя сілы і ня даць іх справакаваць, зьнішчыць па частках. **Дзеля гэтага трэба шматкроць пашырыць сістэму паралельнай нацыянальнай асьветы актыўных пластоў грамадзтва (найперш распаўсюд літаратуры і інфармацыі). Бяз гэтага ня будзе перамогі.** Трэба памятаць вопыт 90-х, калі авангард перамог, а грамадзтва аказалася не гатовым да разуменьня нацыянальнай палітыкі. Асьветніцкія сілы і магчымасьці ў беларусаў ёсьць, патрэбна толькі гатовасьць і рашучасьць працаваць дзеля Айчыны.

Віртуальны стан абложанай крэпасьці, у якім зараз існуе псіхіка Лукашэнкі, узмацненьне рэпрэсій і падрыхтоўка да вайны аўтаматычна змушае беларусаў гуртавацца і дзейнічаць паралельна, схавана і няяўна, строга рэгламэнтуючы легальныя дзеяньні. Ёсьць шмат добрых справаў, якія можна рабіць эфэктыўна і плённа, не выходзячы (да пары) на паверхню. Тым часам культурная праца павінна разьвівацца адкрыта. Гэта вялікая сіла, вялікія магчымасьці ў змаганьні з цемрай. Трэба іх скарыстаць.

Раздумляючы пра 17 страчаных гадоў, пра сорам і ганьбу, пра спакойны, працавіты, добры наш народ, пра грамадзкі абсурд і гістарычнае пакараньне, я задаў аднойчы нечакана наўпрост пытаньне прыяцелю, які патэлефанаваў мне адтуль, зь Беларусі, з нашага сьветлага летуценнага раю,ператворанага ў стойла страху і паняверкі:

-- Скажы, чаму наш добры вялікі народ скарыўся перад цемрай і стаў жыць у страху, бяз гонару і павагі? Чаму так сталася?

Доўгая маўчанка. І потым чую:

**-- Гэта і ёсьць пакараньне Божае за нялюбоў да сябе. Гасподзь даў нам жыцьцё, таленты, мову, зямлю, волю, культуру, а мы адрынулі дар Божы, кінулі сьвіньням пад ногі. Вось за гэта і пакараньне.**

Зянон ПАЗЬНЯК, лістапад 2011

# У Слуцку адзначылі 91-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну

*У Слуцку прайшоў мітынг, арганізаваны КХП БНФ, да якога далучыліся прадстаўнікі іншых арганізацыяў*

У Слуцку адбыліся ўрачыстыя імпрэзы з нагоды 91-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну. Актывісты Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ, руху "Салідарнасьць", іншых дэмакратычных партый і рухаў, а таксама неабыякавыя да беларускай гісторыі людзі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі праехалі па месцах баёў слуцкіх паўстанцаў з войскамі чырвонай арміі.

Удзельнікі сьвяткаваньня наведалі вёску Грозава, Семежава, Вызна (Чырвоная слабада) і Слуцак. Каля памятных крыжоў і знакаў у гонар паўстанцаў былі ўскладзеныя бел-чырвона-белыя кветкі, запаленыя зьнічы. Разам з бардам Аляксеем Галічам удзельнікі акцыі прасьпявалі песьні слуцкіх паўстанцаў.

У Слуцку каля будынку мясцовага краязнаўчага музэю адбыўся мітынг. Яго падрыхтавалі і правялі актывісты Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ. Месца мітынгу выбрана не выпадкова: у будынку, дзе цяпер месьціцца Слуцкі краязнаўчы музэй, у лістападзе 1920 году адбыўся зьезд Рады Случчыны. Лідэры КХП БНФ, якія бралі слова, Юрась Беленькі, Алесь Чахольскі, Сяргей Папкоў, у сваіх прамовах нагадалі пра паўстанцаў-случчакоў, іх гераічны збройны чын, а таксама зазначылі, што іх змаганьне за свабоду і незалежнасьць ёсьць годным прыкладам для перайманьня і ў наш час. Мітынг, удзел у якім прынялі каля двухсот чалавек, завяршыўся сьпевам малітоўнага гімну "Магутны Божа", а таксама песьнямі слуцкіх паўстанцаў.

Увесь шлях удзельнікаў памятных імпрэзаў з нагоды ўгодкаў Слуцкага паўстаньня суправаджалі супрацоўнікі міліцыі, у тым ліку пераапранутыя ў цывільнае. Яны правяралі дакумэнты ў кіроўцаў, фільмавалі прысутных, але ў ходу падзеяў ня ўмешваліся. Сьвяткаваньне 91-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну завяршылася без затрыманьняў. Міліцэйскія аўтамабілі Слуцку суправаджалі ўдзельнікаў памятных імпрэзаў да межаў раёну.

Па традыцыі наведваньне месцаў Слуцкага збройнага чыну пачынаецца з Грозава

У Семежаве памаліліся за загінулых герояў і прасьпявалі песьні, прысьвечаныя Слуцкаму збройнаму чыну

Пасьля мітынгу 12 маладафронтаўцаў прынялі прысягу на вернасьць Бацькаўшчыне

**Крыніца:** Радыё Свабода, 27.11.2011

# На беларускамоўныя звароты трэба будзе адказваць па-беларуску

*Год таму малады жыхар Гомеля Ігар Случак, які раней быў студэнтам Гомельскага ўнiверсiтэту а цяпер вывучае права ў эстонскім Тарту, распачаў персанальную кампанію «Справаводзтва па-беларуску».*

У такі спосаб ён спрабуе пераканаць чыноўнікаў перайсці на беларускую мову. Падводзячы вынікі сваёй кампаніі, Ігар Случак называе перамогай прынятыя зьмены ў закон «Аб зваротах грамадзянаў». Цяпер чыноўнікі павінны будуць адказваць на той мове, на якой прыйшоў зварот у дзяржаўную ўстанову.

*- Былі прынятыя папраўкі ў закон, які забясьпечваюць адказ на зварот на мове звароту. Мы дамагаліся, каб нам давалі адказы на беларускамоўныя звароты на беларускай мове. Былі такія раёны, райвыканкамы, арганізацыі, якія прынцыпова не хацелі ўжываць беларускую мову. Мы сотні зваротаў напісалі ў розныя інстанцыі, у парламент, у міністэрствы. І вось маем вынік.*

Па маёй задумцы, кажа Ігар Случак, чыноўнік павінен адказваць на адной з дзяржаўных моў Беларусі, але дэпутаты напісалі проста: «Адказваць на мове звароту» (Артыкул 18 Закона). Таму, тлумачыць Ігар, можна будзе зьвяртацца на любой мове, і чыноўнік павінен будзе на ёй адказаць.

Папраўка ў закон уступіць у дзеяньне 22 студзеня.

**Крыніца:** Васіль Крокава, Радыё Рацыя, 31-12-2011

# ПРАБЛЕМА ЛАСТОЎСКАГА

*Ці ўшануюць памяць гісторыка і прэм'ера БНР у ягонай радзіме, у Глыбокім?*

Чалавек, які аднаго разу заявіў, што ён кніг ня чытае, абвясьціў 2012 год Годам кнігі. Гэты парадокс спародзіць і ўжо спараджае іншыя парадоксы.

У «Зьвязьдзе» міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі аптымістычна рапартуе аб цывілізацыйных дасягненьнях Беларусі: на Украіне на аднаго жыхара выпускаецца адна кніга ў год, у нас — 4, у Нямеччыне і Францыі — 5–5,5 кнігі. Бачыце, як мы добра выглядаем?

Д'ябал, як вядома, хаваецца ў дэталях. Дык вось, калі дэталізаваць, спадар міністр павінен быў сказаць, што львіная доля кніжнай прадукцыі ў Нямеччыне і Францыі выходзіць па-нямецку і па-французску. А беларускамоўных у Беларусі — 8,5 працэнта. Гэта значыць, 0,34 кнігі на кожнага жыхара. Або прыкладна адна кніга на траіх. (Большая частка расейскамоўных кніг на расейскі рынак і прызначаецца.)

Цікава было б параўнаць, колькі назваў беларускамоўных кніг выходзяць пад грыфам установ, што дзейнічаюць за межамі нашай краіны, і колькі — пад фірмай установ у самой Беларусі. Колькі назваў беларускамоўных кніг выпускаюць недзяржаўныя і дзяржаўныя выдавецтвы.

Спадар Праляскоўскі называе зборы твораў класікаў, энцыклапедычныя выданьні, якія выходзяць пад эгідай дзяржавы, але мне цікавей ведаць, колькі першых кніг маладых паэтаў і празаікаў выпусьцілі за апошнія дзесяць гадоў дзяржаўныя і недзяржаўныя ўстановы. Няхай бы пахваліўся міністр, як дзяржава зьнішчыла выдавецтва літаратуры для дзяцей і падлеткаў «Юнацтва», фактычна ліквідавала газету «Чырвоная зьмена» і часопіс

«Першацьвет», а потым зачыніла газету «Раніца» і часопіс «Бярозка»…



*Вацлаў Ластоўскі -*
*самы знакаміты сын Глыбоччыны*

Спадзяюся, падрабязны рапарт мы пачуем на пачатку верасьня гэтага году — у Дзень беларускага пісьменства ў Глыбокім.

Наагул, цікава, як выбіраюць гарады для гэтага Дня. Дзень пісьменства дагэтуль праводзіўся ў Полацку, Тураве, Навагрудку, Нясьвіжы, Оршы, Пінску, Заслаўі, Мсьціславе, Камянцы, Паставах, Шклове, Барысаве, Смаргоні, Хойніках і Ганцавічах. Кажуць, што праводзіўся і ў Міры, і нават удакладняюць, што на гэтае сьвята пісьменства і літаратуры не запрасілі чалавека, які нарадзіўся ў тых мясьцінах, — Янку Брыля.

Выбар Глыбокага можна назваць удалым.

Цяперашні Глыбоцкі раён — радзіма вялікай групы людзей, якія зрабілі ўклад у беларускую культуру. Гэта і бацька сучаснага беларускага тэатра Ігнат Буйніцкі, і славуты мастак Язэп Драздовіч, і музыколаг, кампазітар, рэдактар газеты «Беларуская крыніца» і пасол на Сойм Польскай Рэспублікі Павел Каруза, і гісторык, журналіст Віктар Сянкевіч (больш вядомы як Язэп Барэйка), і пісьменьнік ды фальклярыст Янка Пачопка, і пісьменьнік Алесь Дубровіч, і пісьменьнік ды журналіст Лявон Савёнак, і крытык ды літаратуразнаўца Тамара Чабан.

У Глыбокім жыла і атрымала пачатковую адукацыю вядомая дзяячка нашай культуры і мемуарыстка Паўліна Мядзёлка.

У Глыбокім нарадзіўся інжынер, дзяржаўны сакратар БНР **Клаўдзій Дуж-Душэўскі**, які ўзьвёў не адзін будынак для дзяржаўных устаноў Літоўскай Рэспублікі. А яшчэ, дзякуючы яму, былі захаваныя і дайшлі да нас рукапісы Янкі Купалы.

Гэтая зямля дала выдатнага польскага пісьменьніка, аўтара знакамітага «Нікодэма Дызмы» Тадэвуша Далэнгу-Мастовіча і славіста, прафесара Ягелонскага ўніверсітэта Зьдзіслава Нядзелю. Гэтая зямля дала таксама расійскага паэта, перакладчыка і філосафа Мікалая Мінскага, якога Яўген Еўтушэнка назваў дзядулем сімвалізму.

З Глыбоцкім раёнам злучаныя імёны сучасных літаратараў Людмілы Андзілеўкі, Марыі Баравік, Віталя Воранава, Віталя Гарановіча, Ірыны Жарнасек, Алеся Жыгунова, Ганны Зінкевіч, Тамаша Ляшчонка, Лявона Ракоўскага, Уладзіміра Савуліча, Алега Салтука, Галіны Сутулы, Андруся Храпавіцкага і Уладзіміра Шломана…

Адных з гэтых літаратараў улады паклічуць на Дзень пісьменства, другіх — не. Бо ў нашай краіне важна служыць не роднаму слову, не нацыянальнай культуры, а рэжыму.

Самым жа вялікім выпрабаваньнем для ўлады стане імя сапраўды знакавай постаці і ў гісторыі беларускае культуры, і ў гісторыі беларускае дзяржаўнасьці. Гэта прэм’ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі, сакратар рэдакцыі *Нашай Нівы,* выдавец, паэт, празаік і публіцыст, аўтар першай гісторыі Беларусі, напісанай для беларусаў па-беларуску, і знакамітай «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі, **Вацлаў Ластоўскі**.

Сярод тых, хто нарадзіўся на тэрыторыі цяперашняга Глыбоцкага раёна (Ластоўскі прыйшоў на сьвет у 1883 у засьценку Калесьнікаў Дзісенскага павету Віленскай губерні, цяпер Плісенскі сельсавет Глыбоцкага раёна), ён, па-мойму, — першая постаць.

Я жыву ў чаканьні Дня пісьменства ў Глыбокім.

Мне вельмі цікава, як улада вырашыць у час падрыхтоўкі і правядзеньня гэтага свята «праблему Ластоўскага». «Праблему Дуж-Душэўскага» яна ўжо вырашыла: зьдзерла са сцяны мемарыяльную дошку, усталяваную глыбоцкімі актывістамі ў 2008-м, — і амэн. Цяпер перад ёю «праблема Ластоўскага». Што ні кажы, а Ластоўскі — акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук.

**Крыніца**: *Наша Ніва*, 29 студзеня 2012. Пісаў Анатоль Сідарэвіч.

Чытаць цалкам: **http://nn.by/?c=ar&i=67335**

# РУСІФІКАЦЫЯ: універсытэты спыняюць набор на беларускую філалогію

У Магілёве больш ня будуць рыхтаваць педагогаў беларускай, а ў Менскім педагагічным закрытыя адразу 4 спецыяльнасьці беларускай філалогіі.

У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце вялікая рэформа — зачыняюцца сем педагагічных спецыяльнасьцяў. Дзіўным чынам супала, што на чатырох зь іх рыхтавалі менавіта філолагаў беларускай мовы. Пры гэтым набор на спецыяльнасьці, на якіх рыхтуюцца расейскамоўныя філолагі, не скарочаны.

У прыватнасьці, у наступным годзе БДПУ адмовіцца ад падрыхтоўкі педагогаў па спецыяльнасьцях «Беларуская мова і літаратура», «Беларуская мова і літаратура. Нямецкая мова», «Беларуская мова і літаратура. Ангельская мова», а таксама спецыялістаў па беларускамоўнай журналістыцы.

Акрамя гэтага, ва ўніверсітэце прыпыняюць навучаньне гісторыкаў-географаў.

Цяпер галоўны педагагічны ўніверсітэт краіны будзе рыхтаваць настаўнікаў беларускай мовы толькі на дзьвюх спецыяльнасьцях. Расейскай мове будуць навучаць на трох спецыяльнасьцях, дзве з якіх звязаныя для прэстыжнасьці яшчэ і з кітайскай і італійскай мовамі.

Замест гісторыкаў і філолагаў у БДПУ будуць рыхтаваць біёлагаў і лагапедаў — менавіта такія спецыяльнасьці адчыняцца ў 2012 годзе на ўніверсітэце.

Выпадак з БДПУ — не адзіны.

Напрыклад, Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Аркадзя Куляшова нядаўна абвясьціў, што зьбіраецца адмовіцца ад прыёму студэнтаў на шэраг гуманітарных спецыяльнасьцяў. У лік зачыненых трапіла і спецыяльнасьць з профільнай беларускай мовай.

Як піша *Народная воля*, сёлета тут ня будзе прыёму студэнтаў на «беларускую і расейскую мовы», «гісторыю рэлігіязнаўства», «пачатковую адукацыю і выяўленчае мастацтва».

Па рэкамэндацыі Мінадукацыі, магілёўскі ўніверсітэт таксама плануе скараціць лік бюджэтных месцаў для эканамістаў, юрыстаў, журналістаў і настаўнікаў фізкультуры.

Чаму ўніверсітэты адмаўляюцца ад набору на спецыяльнасьці, зьвязаныя менавіта з беларускай мовай?

Нядаўна Міністэрства адукацыі запатрабавала ад ВНУ скараціць набор на педагагічныя спецыяльнасьці на 14%. Гэтым можна патлумачыць агульны трэнд на адмову ад прыёму будучых выкладчыкаў. Але аналіз папулярнасьці настаўніцкіх спецыяльнасьцяў дае несуцяшальную карціну.

У тым самым Педагагічным ўніверсітэце ўступная кампанія мінулага году на факультэце беларускай і расейскай філалогіі скончылася фактычным правалам.

Не знайшлося ахвотных вучыцца на пяці бясплатных месцах спецыяльнасьці «Беларуская мова і літаратура. Нямецкая мова» і чатырох чалавек на бюджэт для спецыяльнасьці «Беларуская мова і літаратура. Расейская мова і літаратура». Дарэчы, менавіта ад набору на гэтыя спецыяльнасьці сёлета адмаўляюцца ў БДПУ.

Заробкі настаўнікаў малыя, таму людзі і ня ідуць. Што да беларускай мовы, то грамадства тонка адчувае курс уладаў.

Беларускамоўнаму чалавеку няма як спадзявацца на кар'еру ў дзяржаўных органах. За 10 гадоў між апошнім і передапошнім перапісамі колькасьць людзей, якія размаўляюць удома па-беларуску, скарацілася амаль удвая, з 37% да 23%.

Таму ня лепшая сітуацыя і ў іншых ВНУ краіны.

Напрыклад, у Берасьцейскім дзяржаўным універсітэце: там на спецыяльнасьць «Беларуская мова і літаратура. Замежная мова (ангельская)» філфаку ў 2011-м ніводзін абітурыент так дакументаў і не падаў. Вучыцца на выкладчыка ніхто не пажадаў, і 9 бюджэтных месцаў засталіся вольнымі. Верагодна, у 2012 годзе БрДУ таксама адмовіцца ад набору на гэту спецыяльнаьсць.

Можна канстатаваць: калі Аляксандр Лукашэнка застанецца пры ўладзе яшчэ доўга, беларускую мову чакае цяжкая доля.

Чытаць цалкам: **http://nn.by/?c=ar&i=67483**

**Крыніца:** *Наша Ніва*; generation.by, 31 студзеня 2012

## Беларусь у сьвеце

### Міхалевіч атрымаў канадзкую праваабарончую прэмію

Алесь Міхалевіч, дэмакратычны кандыдат на мінулагодніх прэзідэнцкіх выбарах, як першы эўрапэец стаў лаўрэатам прэміі імя Джона Гамфрэя, аўтара першага праекту Усеагульнай дэклярацыі правоў чалавека.

Як гаворыцца ў заяве Міжнароднага цэнтра па правох чалавека і развіцьця дэмакратыі, Міхалевіч узнагароджаны «ў знак прызнаньня яго мужнасці, агучваньня фактаў катаваньня ў турме ды змаганьня за правы чалавека ў складаных палітычных умовах». Па словах Алеся Міхалевіча:

“ Гэта вельмі важная ўзнагарода. Перш за ўсё таму, што гэта ўзнагарода ад Канады, якая да гэтага часу ў нашым рэгіёне ня была настолькі заангажаваная. Да таго-ж я першы эўрапэец, які за 20 гадоў існаваньня гэтай узнагароды яе атрымліваю, і гэта паказвае важнасьць Усходняй Еўропы, і паказвае важнасьць Беларусі, якая павінна разьвітацца са сваёй дыктатурай.”

Пераможца Прэміі свабоды імя Джона Гамфрэя атрымае 25 тыс. даляраў, а таксама адправіцца ў тур па канадзкіх гарадох, у час якога распавядзе пра сітуацыю ў Беларусі ды парушэньні правоў чалавека ў краіне.

**Крыніца:** Ганна Мордань, Радыё Рацыя, 9 лістапада 2011

***Ад рэдактара:*** *Паводле свайго статуту, суполка ПАГОНЯ, афіцыйны выдавец часапісу КРЫВІЯ -- гэта арганізацыя непалітычная, выключна культурна-асьветніцкага характару.*

*Што датычыцца вышэй зьмешчанай інфармацыі пра канадзкія падарожжы сп. Міхалевіча, дык яе, на маю думку, трэба разглядаць* ***толькі як інфармацыю****, якая ніякім спосабам не забавязвае суполку ПАГОНЯ падтрымоўваць палітычную дзейнасьць сп. Міхалевіча ў Чэхіі.*

---

## Калінінград: вечар памяці Максіма Багдановіча

Таварыства беларускай культуры ў Караляўцы (Калінінградзе) адсьвяткавала 120-годзьдзе Максіма Багдановіча. Сьвята сустрэчы з паэзіяй арганізаваў старшыня таварыства **Ігар Шаховіч**, які ўжо няраз зьбіраў усіх тых, хто неабыякавы да беларускай культуры ў Калінінградзе.

Аб жыцьці й творчасьці Максіма Багдановіча распавёў слухачом госьць зь Менску, **Мікола Трус**, адданы й шчыры дасьледчык творчасьці славутага беларускага песьняра, загадчык катэдры беларускай мовы й літаратуры Беларускага тэхналагічнага ўнівэрсытэту.

Ён падкрэсьліў значнасьць ня толькі паэзіі Багдановіча, але й ягонае сувязі з сусьветнай культурай, ягонае дзейнасьці літаратурнага крытыка й перакладчыка на беларускую мову Авідыя, Дантэ, Верлена, Шаўчэнкі, Кацюбінскага. Мікола Трус адзначыў, што Багдановіча памятаюць у тых мясьцінах, дзе жыў вялікі пясьняр: у Яраслаўлі, Ніжнім Ноўгарадзе, Менску, на Гарадзеншчыне, у Ялце. Там пастаўленыя помнікі паэту й заснаваныя музэі М. Багдановіча.

На сьвяце паэзіі гучалі вершы паэта **Віталя Рыжкова**, і песьні ў выкананьні **Зьмітра Вайцюшкевіча**.

... Вельмі цікавай была прамова мастка **Алеся Пушкіна.** Ён распавёў пра тое, як паўплывала знаёмства з творчасьцю

Максіма Багдановіча на станаўленьне ягонага сьветапогляду й нацыянальнай сьвядомасьці.

..З удзячнасьцю за запрашэньне, і на добрай беларускай мове выступіў генэральны консул Летувы ў Калінінградзе **Вацлаў Станкевіч**, у якога дарэчы беларускія карані.

**Крыніца**: Л. Давыдзенка, інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня беларусаў сьвету Бацькаўшчына, лістапад 2011.

## Беларусы Эўразьвязу

### Дні беларускай культуры ў Кракаве

Гістарычныя даклады, паказы дакументальных фільмаў, знаёмства з выданьнямі, прысьвечанымі Беларусі, ды выступы беларускіх музычных гуртоў цягам трох дзён арганізавала Беларускае таварыства ў Кракаве.

Як зазначае старшыня таварыства Юры Гардзееў, у Кракаве мала вядома пра Беларусь, а моладзь часам нават ня мае ўяўлення пра гісторыю ды культуру суседняй краіны. Таму задача Дзён беларускай культуры – наблізіць Беларусь да жыхароў Кракава.

- У першую чаргу гэтыя дні культуры разьлічаны на моладзь, на студэнтаў. Пажадана, каб яны ведалі гісторыю суседняга народа. Студэнты ў маім інстытуце праяўляюць зацікаўленасць да гісторыі Беларусі, з ахвотаю прыйшлі. У сувязі з тым, што мы суседнія народы, трэба неяк абменьвацца такой інфармацыяй.

У першы дзень у межах Беларускіх дзён культуры праходзіць дыскусія, прысвечаная гісторыі Другой сусьветнай вайны на тэрыторыі Беларусі. Таксама адбудзецца прэзентацыя кніг з серыі “Гродзенская бібліятэка”, а ўвечары пройдзе паказ дакументальных фільмаў тэлеканала Белсат.

* * *

Як зазначыў Аляксей Шота зь беларускага таварыства ў Кракаве, перапынак у правядзеньні Дзён беларускай культуры быў перадусім зьвязаны з фінансавымі праблемамі.

- У 2009-2010 гадох мы сапраўды стараліся знайсьці магчымасць правесьці іх, але ўсё, па вялікім рахунку, упіралася ў фінансавае пытаньне. Першыя накіды праграмы мы зрабілі яшчэ ў 2009 г., не шмат засталося пашырыць. Канешне, з часам шмат чаго зьмянілася. Спадзяюся, што ў будучыні ў нас ўсё будзе атрымлівацца лепей і да наступных дзён культуры мы не будзем чакаць зноў тры гады.

Сёлета арганізацыя беларускіх дзён культуры была фінансаваныя Малапольскай ваяводзкай управай, у арганізацыі дзён культуры актыўны ўдзел прынялотаксама Кракаўскае студэнцкае самаўпраўленьне.

**Крыніца:** Зміцер Косцін, Радыё Рацыя, 16 лістапада 2011.

## АПОШНЯЯ ІМПРЭЗА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ У 2011 ГОДЗЕ

Вільня - 26 лістапада 2011 адбылася імпрэза, прысьвечаная Слуцкаму Збройнаму Чыну - Дню Герояў. Старшыня ТБК Хведар Нюньнка зачытаў адмысловы Зварот да беларусаў сьвету Старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвілы адзначыць вялікую падзею ў гісторыі Беларусі - збройнае паўстаньне ў Слуцку супроць бальшавіцкай акупацыі Беларусі.. Ушанаваць памяць пра беларускіх змагароў у 1920 годзе.

Затым быў паказаны дакументальны фільм , дзе былы сябра Рады ТБК Валеры Місюк, нажаль трагічна загінуўшы, падрабязна распавёў пра ход Слуцкага паўстаньня.

Хведар Нюнька паказаў прысутным фотаздымкі помніка-капліцы на беларускіх могілках Мельбурна , дзе намаганьнямі аўстралійскіх беларусаў 35 гадоў таму, ў гонар Дня Герояў, была пабудавана гэтая капліца з надпісам "на вечны ўспамін спачылых усіх ведамых і няведамых беларусаў". Гэта пакуль адзіная такая капліца загінуўшым беларусам у сьвеце. Выказываем удзячнасьць аўстралійскім беларусам.

На імпрэзе выступіў з прамоваю старшыня грамадзкага і палітычнага прадстаўніцтва Беларусі ў Літве Алег Мяцеліца, каардынатар выбарчага штабу ў прэзыдэнты Беларусі Уладзміра Някляева. Ён распавёў пра дзейнасьць і пляны арганізацыі . Дамовіліся аб цесным супрацоўніцтве з беларусамі Літвы ў акцыях за дэмакратызацыю і свабоду ў Беларусі.

Старшыня ТБК коратка распавёў пра юбілей віднага беларускага дзеяча ў міжваенны час у Вільні Янку Багдановіча, рэдактара часопіса "Шлях моладзі". За беларускую патрыятычную дзейнасьць быў пакараны бальшавікамі і адсядзеў у сталінскіх лагерах. Пасьля вызваленьня вымушаны быў працаваць у польскіх школах. Памёр у 1990 годзе. На імпрэзе быў паказаны дакументальны фільм паховін, з развітальнымі словамі выступілі: Данута Бічэль-Загнетава з Гародні, Пятро Малафей з Салечнік і Аляксей Анішчык.

На імпрэзе прысутнічалі трое сяброў БХД з Беларусі. Каардынатар праекту "Пакаяньне" Валерыя Чарнаморцава передала прывітаньне ад вельмі паважанага ў нас Паўла Севярынца і распавяла пра дзейнасьць і мэты арганізацыі БХД.

Свае выступленьні падзеям у Беларусі і Літве прысьвяцілі сябры: Кастусь Манкус пра трагічныя 24 і 27 лістапада 1996 г. Алег Аблажэй- пра свой шлях да беларускага пісьменства. З прывітальным словам выступіў дырэктар фонду грамадзянскай абароны Стасіс Каўшыніс.

Заключным акордам на імпрэзе было сьвяткаваньне дня народзін сябра Рады ТБК, ганаровага войта (старасты) Вяркяйскй сенюніі Вільні Вацлава Гульбіновіча. Самыя шчырыя віншаваньні і пажаданьні паважанаму юбіляру

выказвалі ўсе прысутныя  за сьвяточным сталом. З добрым настроем і жаданьнем далей працаваць для беларускай справы разьвіталіся сябры да наступнай сустрэчы ўжо ў новым 2012 годзе.

Аглядальнік, Вільня 28. 11. 2011

## Вялікая праграма фінансаваньня адукацыі

Вялікая праграма фінансаваньня адукацыі беларусаў запускаецца пры падтрымцы Эўрасаюзу і скандынаўскіх краін. У яе рамках кожны грамадзянін Беларусі зможа атрымаць стыпендыю на навучаньне ў бакалаўрыяце альбо магістратуры фактычна любога ўніверсітэту ЕС. Ініцыятары праграмы спадзяюцца, што па сканчэньні адукацыі стыпендыяты будуць вяртацца ў Беларусь і гэта зблізіць нашу краіну з Эўропай.

Праграму фінансуе Еўрасаюз, а ажыцьцяўляе «Паўночная рада» — Рада міністраў замежных справаў скандынаўскіх краін. Стыпендыя «Адкрытай Еўропы» пакрые ўвесь кошт навучаньня ў выбраным унівэрсітэце. Акрамя таго, студэнту будзе выдавацца грант на падарожныя выдаткі ў памеры 800 еўра на год, а таксама 1 000 еўра штомесяц на пражываньне.

Гэтага цалкам дастаткова, каб камфортна жыць у часе навучаньня. Хопіць і на пакойчык, і на пракорм. Для параўнаньня: сярэдні заробак у Беларусі на сёньня складае каля 230 еўра, або ў 4 разы менш. Таму раней магчымасьць вучыцца ва ўніверсітэтах Эўропы (акрамя ЕГУ і Праграмы Каліноўскага), мела толькі моладзь з самых багатых сем'яў і дзеці карумпаванай часткі чыноўнікаў.

Права на стыпэндыю будуць мець толькі грамадзяне Беларусі.

Заяўкі будуць разглядацца ад абітурыентаў усіх спецыяльнасьцяў, але прыярытэт будзе нададзены праву, эканоміцы і сацыяльным навукам, бізнэс-адукацыі, біялогіі, медыцыне, інжынерыі.

Падача заяўкі на паступленьне ва ўніверсітэт і на стыпендыю — два асобныя працэсы. Універсітэты прымаюць студэнтаў у залежнасьці ад іх акадэмічных здольнасцяў і ведантня мовы, у той час як стыпенды будуць вылучацца на аснове матывацыі. Карацей, малады чалавек мусіць сам дабіцца прыёму ва ўніверсітэт, а тады ўжо скандынаўскі фонд яму аплаціць навучаньне і пражыцьцё. Гэта робіцца, каб адсячы бяздарных шукальнікаў грантаў.

Падаваць заяўку на атрыманьне стыпендыі можна яшчэ да залічэньня ва ўніверсітэт, але канчатковае рашэньне прымаецца пасля паступленьня.

Каб атрымаць стыпендыю, трэба:

1. Абраць ад аднаго да трох універсітэтаў і праграму згодна з вашымі зацікаўленьнямі. Калі вы абіраеце два ўніверсітэты, то яны павінны быць у розных краінах (калі тры, то два могуць быць у адной краіне).

2. Запоўніць анлайн форму на атрыманьне стыпендыі на сайце праграмы і даслаць да 16 сьнежня 2011. Формы заяўкі, якія паступяць пазней за дату дэдлайну, будуць перанесеныя на наступны перыяд размеркавання стыпендый.

3. Кандыдаты, якія пройдуць папярэдні адбор, будуць запрошаныя на інтэрв'ю ў Вільню. Яно мае адбыцца з 2 да 13 лютага 2012.

Інфармацыя пра ўмовы удзелу, крытэры адбору, працэдуры запаўненьня і падачы заяўкі месьціцца на сайце праграмы OESS.

Штуршок гэтай стыпендыяльнай праграме дала Плошча 2010 году. Гэтаксама як Плошча 2006 года дала жыцьцё Праграме Каліноўскага.

Эўропа шукала, якім чынам дапамагчы Свабоднай Беларусі, і прыдумала вось такі інструмент для моладзі. Ахвярнасць удзельнікаў Плошчы, якія данесьлі да свету свой «крык, што жыве Беларусь», дала беларускім юнакам — незалежна ад іх палітычных поглядаў — шанец на еўрапейскую адукацыю.

Ужо сёньня колькасць беларусаў, якія навучаюцца ў еўрапейскіх універсітэтах, дасягнула гістарычнага максімуму. А запуск новай праграмы дазволіць гэтую лічбу яшчэ павялічыць. Прычым беларусы будуць трапляць ня толькі ў ВНУ Польшчы і Летувы, а і ў самыя якасныя ўніверсітэты Заходняй Еўропы.

Пытаньне толькі, ці жыцьцё будзе спрыяць, каб сучасныя Скарыны вярталіся на радзіму.

Маючы еўрапейскі дыплом і веданьне мовы, звыклыя да 1000-еўравых стыпендыяў, ці ня выберуць яны працяг кар'еры па месцы вучобы, а не нараджэньня? Пакуль еўрапейскія дыпломы ня прызнаюцца ў Беларусі, гэта найбольш рэальная перспектыва.

Чытаць цалкам: **http://nn.by/?c=ar&i=64045**

## Маніфэст

Паважаныя суайчыньнікі.
Зьвяртаемся да вас, з словамі заклапочанасьці, за лёс нашай Бацькаўшчыны - Беларусі.

У мінулым годзе ў Бэльгіі, быў заснаваны Офіс Беларускай Палітычнай Эміграцыі (Ген. дарэктар сп. Ю. Жылко, дар. І. Лазарчук, Антвэрпен). Офіс зарэгістраваны і мае акрэдытацыю у Эўрапарлямэнце. Яго заснавальнікі фізічныя асобы, прадстаўнікі палітычнай эміграцыі апошняга дзесяцігодзьдзя. Стратэгія Офісу палягае ў кансалідацыі і каардынацыі намаганьняў беларускай дыяспары сьвету супраць зьнішчэньня беларускага этнасу і дапамога беларускай нацыі у барацьбе за свае правы й жыцьцёвыя інтарэсы; супраць паўзучай акупацыі з боку Расеі.

Нас ня ўвядзе у зман і заклапочанасьць палітыкаў іншых замежных краін лёсам нашай Бацькаўшчыны. Усе іх заявы носяць дэкляратыўны характар, а кропкавыя санкцыі, ня спрыяюць наближэньню зьменвў у Беларусі. Палітыка дыялогу і улагоджваньня рэжыму з боку міжнародных палітыкаў з трэскам правалілася.

Адсутнасьць сусьветнай кансалідаванай і жорсткай стратэгіі у дачыненьні да крымінальнага рэжыму, донарская дапамога з боку Расеі, сьведчыць аб адсутнасьці зацікаўленасьці у пабудове моцнай беларускай нацыянальнай дзяржавы. Нас разглядаюць, у будучым, не як суб'ект у міжнароднай палітыцы а як сфэру свайго уплыву, ці часткай саёй тэрыторыі, а беларускую нацыю - як танную працоўную сілу (рабоў)

Мы заяўляем, што мы ня больш сумленныя беларусы, чым астатнія беларусы, мы ня больш патрыятычныя чым іншыя. Тут, у замежжы, мы чальцы розных палітычных партыяў і арганізацыяў у мінулым, не зьяўляемся афіцыйнымі прадстаўнікамі беларускай нацыі і не упоўнаважаны выступаць ад яе імя. Мы прадстаўляем толькі сябе, мы ня кажам пра сябе як аб ратавальніках нацыі; але бярэм частку адказнасьці за яе будучыню. Мы гатовы, несьці і асабістую адказнасьць за свае словы і дзеяньні перад беларускім грамадзтвам і суайчыньнікамі у сьвеце. Таму адкрыта заяўляем, аб сваёй грамадзянскай пазіцыі і сваім бачаньні будучай Беларусі. На сёньняшні дзень у нас ёсьць прыхільнікі і паплечнікі - у Літве, Чэхіі, Польшчы, Вялікай Брытаніі, Нямеччыне.

Мэтай і задачай ОБПЭ зьяўляецца:

- усебаковая (юрыдычная, маральная і матар'яльная), адрасная дапамога беларускім палітычным уцекачом у замежжы.

- Пашырэньне адукацыйнай, інфармацыйнай дзейнасьці (беларускамоўныя сайты, інтэрнэт-тэлебачаньне і інш. формы), накіраванай на зьдзяйсьненьне аб'ектыўных інтарэсаў беларуска-літвінскага народу, Сярод гэтых інтарэсаў на сёньня самы галоўны - мець для сябе сваю беларуска-літвінскую дзяржаву.

- У матар'яльным забяспячэньні сваёй дзейнасьці ОБПЭ разьлічвае найперш на самафінансаваньне. Аснову фінансавага забяспячэньня павінен скласьці збор сродкаў з беларусаў-літвінаў. Карыстацца любой падтрымкай (у тым ліку матар'яльнай) можна толькі ад тых арганізацыяў, якім адпавядаюць нашы мэты. Апошні падыход ёсьць грунтам для ўсіх іншых формаў супрацоўніцтва зь іншымі арганізацыямі. Падстройвацца пад інтарэсы і мэты іншых сілаў, каб атрымаць грошы (як гэта робіць сучасная "апазыцыя") катэгарычна забараняецца

- Адраджэньне нацыянальнай сьвядомасьці і кансалідацыі ў барацьбе за свае жыцьцёвыя інтарэсы. Якія палягаюць у наданьні беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай, у праве быць гаспадаром на сваёй зямлі, правам распараджэньня яе нетрамі і карыстаньні вынікамі сваёй працы.

Суайчыньнікі!

Зьвяртаем вашу ўвагу на тое, што сёньня замала захоўваць беларускую прысутнасьць у сьвеце, замала таньчыць і сьпяваць па беларуску, замала рабіць, ні да чаго не абавязуючыя заявы, ня ўражваюць пікеты і усялякія флэш-мобы, да іх ужо прызвычаіліся. Не патрэбна агітаваць і выхоўваць замежную супольнасьць, у іх сваё жыцьцё, свае прагматычныя інтарэсы. Трэба разумець, што у сьвеце шмат краін, якім патрэбна дапамога і Беларусь адна зь іх. Таму трэба пакінуць спадзевы на міжнародную супольнасьць. Як шматсотгадовая наша гісторыя, так і падзеі апошніх дзесяцігодзьдзяў ясна паказалі, што беларусам бяссэнсоўна разьлічваць на тое, што нехта зразумее нашыя праблемы і з-за пачуцьця інтэрнацыянальнай салідарнасьці падтрымае, дапаможа нам. Спадзявацца патрэбна толькі на сябе й сваіх суайчыньнікаў. Інакш, зь цягам часу, ад беларускай нацыянальнай дзржавы, застанецца адна геаграфічная назва і нейкія выспы у сьвеце.

Асаблівым момантам у дзейнасьці ОБПЭ у замежжы, павіна быць усьведамленьне таго, што сапраўды дэмакратычная нацыянальная дзяржава.(якая ёсьць галоўнай мэтай ОБПЭ) павінна быць надзейным аплотам (домам, зямлёй, Бацькаўшчынай) для любога беларуса-літвіна, дзе б ён ні жыў, працаваў цяпер. Ён заўседы павінен мець магчымасьць у любы момант вярнуцца на Радзіму і яна павінна прыняць яго з распрасьцёртымі абдымкамі. Такога сёньня няма. І пакуль Беларуская Дзяржава ня будзе належыць беларускаму народу, такога ня будзе. Але такое павінна быць і ОБПЭ будзе за гэта змагацца

Мы зьвяртаемся да беларусаў у Эўропе, Азіі, Аўстраліі, Амерыкі, Канадзе з пытаньнем:

Хто вы, што вы можаце зрабіць для сваёй беларускай нацыі? Чым вы можаце быць карыснымі; дзе ваш Грунвальд? Можна прывесьці прыклад салідарнасьці і ўзаемадапамогі, паваеннай эміграцыі. Беларусы, ратуючыся ад камуністычнай заразы, галечы і жабрацтва, здолелі знайсьці адзін аднаго; дапамагалі адзін аднаму; аб'ядналі свае намаганьні; перамаглі самоту і жабрацтва; іх заўважылі і пачалі лічыцца і яны выжылі самі і дапамаглі іншым.

Мы не агітуем, мы распавядаем пра рэальныя рэчы і грукаемся да вашага зачыненага розуму. Сёньня да месца будзе заклік "Беларуская Нацыя і Бацькаўшчына - у небясьпецы!" Пастаўце сябе, на месца тых, каму патрэбная ваша дапамога. Прыпыніце спрэчкі, разнагалосьсі паміж сабой, знайдзіце адзін аднаго, спыніце падзел на прыналежнасьць да ўсялякіх партыяў і рухаў, асабістых сімпатыяў, у замежжы мы усе - толькі беларусы

Спадзяёмся на тое, што той, хто адгукнецца на наш заклік, знойдзе нас, прапануе сваю дапамогу і разам мы будзем набліжаць перамогу беларускай нацыі і разам пераможам.

Дапамога беларускай справе можа быць у трох формах ( ва ўсіх разам ці ў любой зь іх):

- удзел справамі (удзел у самых розных акцыях),
- словамі (публічна, ці тэт а тэт, выступы, дыскусіі),
- і фінансава (грашовыя ахвяраваньні на выкананьне ОБПЭ, пастаўленых мэтаў і задачаў)

Чужога гора - ня бывае!

Гэй, ліцьвіны, Бог нам радзіць!

З павагай.

Я.Мурашка, каардынатар Офісу Беларускай Палітычнай Эміграцыі.
Для тых, хто нас пачуў: тэл - 0049 871 276 59 04
email - zbn42@mail.ru

23.01.12 г.

Спадарыня Сурвіла.

Чакаем водгукаў на гэты Маніфэст.

Дапамажыце, калі ласка, у распаўсюдзе сярод беларускай дыяспары. Чакаем адказу.

З павагай.

Я.Мурашка

---

# Шушкевіч: У Летуве — фабрыка дэнацыяналізацыі беларусаў

*«Падтрыманы Летувой Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт — антыбеларускі і антыдэмакратычны. Ён дапамагае русыфікаваць Беларусь», — заявіў у інтэрвію газэце* ***Lietuvos rytas*** *Станіслаў Шушкевіч.*

Былы старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі 77-гадовы С.Шушкевіч, які нядаўна наведаў Вільню — адзін з ідэі і заснавальнікаў ЭГУ.

Гэты дзяяч беларускай апазыцыі ўдзячны Літве за тое, што яна дала прытулак выгнанаму зь Менску ўнівэрсытэту, аднак ня можа зразумець, нашто ў Вільні беларусаў вучаць па-расейску.

**Шушкевіч:** Унівэрсытэт, які месьціцца ў Вільні, цяпер па сутнасьці рыхтуе зрусыфікаваныя кадры і ў дачыненьні да Беларусі праводзіць тую самую палітыку, што і Расея.

Выпускнікі гэтага ўнівэрсытэту ня ведаюць беларускай мовы або ведаюць яе недастаткова добра.

Беларусь цяпер жыве ва ўмовах прымусовай русыфікацыі, гэта цягнецца ад 1794 году. І ЭГУ фактычна дапамагае гэтаму працэсу.

**LR: Але ж ці мог унівэрсытэт перашкодзіць гэтаму працэсу? — пацікавілася карэспандэнтка ў С.Шушкевіча.**

**Шушкевіч:** Ён мусіў рыхтаваць для Беларусі высокаадукаваных людзей, якія б маглі працаваць у галіне гуманітарных навук.

Цяпер выпускнікі зрусыфікаваныя: іх веды беларускай мовы недастатковыя.




*Станіслаў Шушкевіч*

Я ня толькі адзін з заснавальнікаў гэтага ўнівэрсытэту. Я дапамагаў гэтаму ўнівэрсытэту абсталявацца ў Менску і пачаць вучыць студэнтаў.

Тады я быў старшынём Вярхоўнага Савету і проста са скуры вылузваўся, каб такая навучальная ўстанова пачала сваю працу.

У 1992 годзе гэты ўнівэрсытэт пачаў працаваць у Менску, ня маючы свайго памяшканьня.

Я прыдумаў камбінацыю: рэктар Анатоль Міхайлаў запрасіў кіраваць катэдрай рэлігіі мітрапаліта менскага і слуцкага Філарэта, а я ўгаварыў гэтую духоўную асобу бясплатна перадаць універсытэту памяшканьне ваеннага музэю, якое я як кіраўнік дзяржавы вярнуў Царкве.

Нікому той ваенны музэй быў не патрэбны, але калі б я яго перадаў непасрэдна ўнівэрсытэту, узьняўся б скандал, а вяртаньне Царкве ўсе зразумелі.

**LR: А ці ў Беларусі студэнты навучаюцца па-беларуску?**

**Шушкевіч**: У Беларусі студэнты і школьнікі навучаюцца па-расейску зь вельмі нязначнымі выняткамі.

**LR: Дык можа навучаньне па-беларуску вельмі цяжка арганізаваць?**

**Шушкевіч**: Толькі два чалавекі ў Беларусі казалі, што па-беларуску немагчыма выказаць усе тонкасьці філязофіі, бо няма тэрмінаў і крыніцаў. Гэта прэзыдэнт РБ Аляксандар Лукашэнка і рэктар ЭГУ Анатоль Міхайлаў.

Гэта няпраўда. На беларускай мове можна выкладаць ня толькі філязофію або гуманітарныя навукі, але нават фізыку і хімію.

**LR: А што робяць выпускнікі гэтага ўнівэрсытэту?**

**Шушкевіч:** Я ведаю толькі аднаго выпускніка гэтага ВНУ, які вярнуўся ў Беларусь, ведае беларускую мову і працуе так, як трэба гэтай краіне.

Усе іншыя нават не вяртаюцца, а калі вяртаюцца — ніхто іх ня бачыць. Сярод выпускнікоў няма нейкіх хоць крыху заўважных асобаў.

**LR: Чаму вы называеце гэты ўнівэрсытэт недэмакратычным?**

**Шушкевіч:**Ці існуе хоць адзін эўрапейскі ўнівэрсытэт, якім дзевятнаццаць гадоў кіруе той самы чалавек? А.Міхайлаў займае пасаду рэктара даўжэй, чым Лукашэнка пасаду прэзыдэнта.

**LR: Але вы былі адным з заснавальнікаў гэтага ўнівэрсытэту і падтрымалі кандыдатуру Міхайлава?**

**Шушкевіч:** Акадэміка Міхайлава я лічыў адукаваным чалавекам высокай прафэсійнай кваліфікацыі. Асабліва вялікае ўражаньне на мяне зрабіла яго валоданьне мовамі: ён працаваў за мяжою, свабодна гаварыў па-француску, па-нямецку, па-ангельску.

Аднак калі гэты ўнівэрсытэт, яшчэ будучы ў Менску, адзначаў сваё дзесяцігодзьдзе, на ўрачыстым сьвяткаваньні гучалі віншаваньні на расейскай, нямецкай, ангельскай, францускай, італьянскай мовах, але не прагучала ніводнага слова па-беларуску.

Я тады сказаў: «Паважаныя манкурты, вы ператварылі беларускі ўнівэрсытэт у нейкую несалідную ўстанову. Як у Менску можа дзейнічаць эўрапейскі ўнівэтсытэт, дзе не паважаецца беларуская мова?»

**LR: Бачу, што вы вельмі хвалюецеся..**.

Шушкевіч: Апазыцыю б’юць, кідаюць у турмы, а Міхайлаў спакойна сядзіць у Вільні на эўрапейскай зарплаце і рыхтуе антыбеларускія кадры.

Як я магу быць спакойны?

Апрача таго, атрымліваючы фінансавую падтрымку з розных краінаў і фондаў, ён яшчэ бярэ ад студэнтаў плату за навучаньне!

Рэктара папрасілі застацца кіраваць і ў Вільні

Пачуўшы ад С.Шушкевіча шмат папрокаў, газэта *Lietuvos rytas* зьвярнулася ў ЭГУ і атрымала адказ ад адміністрацыі:

*«Заснавальнік і цяперашні рэктар Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту Анатоль Міхайлаў ужо некалькі гадоў таму заявіў, што гатовы пакінуць пасаду рэктара.*

*Аднак міжнародная кіраўнічая рада ЭГУ папрасіла яго застацца і кіраваць унівэрсытэтам, пакуль ён не абсталюецца ў Вільні.*

*У ЭГУ каля 25 працэнтаў курсаў выкладаюцца па-беларуску. Іншыя курсы выкладаюцца на расейскай ды іншых мовах, у залежнасьці ад абставінаў, як напрыклад з-за недахопу навуковай літаратуры на беларускай мове.*

*З часам унівэрсытэт запрапануе больш курсаў на ангельскай ды іншых мовах.*

*Каля чвэрці студэнтаў ЭГУ вучацца бясплатна. Бальшыня астатніх карыстаюцца льготамі. Плата за навучаньне не перавышае 1500 эўра за год (за выключэньнем тых, хто плаціць паводле магістарскай праграмы адміністрацыі бізнэсу).*

*Падтрымкі спонсараў недастаткова, каб утрымаць унівэрсытэт толькі з ахвяраваньняў».*

**Крыніца:** Радыё Свабода, 19.12.2011

# ТБК: старыя праблемы з новым кіраўніцтвам

У суботу 28 студзеня ў Таварыстве Беларускай Культуры ў Літве адбыўся справаздачна-выбарчы сход, пад час якой старая рада склала свае паўнамоцтвы і адбыліся выбары новага кіраўніцтва.

Справаздачна-выбарчаму сходу папярэднічала традыцыйнае мерапрыемства, пад час якога ўзгадалі найбольш выбітных віленскіх дзеячоў на беларускай ніве, юбілейныя даты якіх з дня нараджэньня ці сьмерці прыпалі на студзень.

У студзені споўнілася 120 гадоў з дня нараджэньня самага вялікага беларускага дзеяча на Віленшчыне ксяндза **Адама Станкевіча**, большая частка яго сьвятарскага служэння прайшла менавіта тут, у Вільні. Яшчэ і сёньня, калі прадстаўнікі шматлікіх нацыянальнасьцяў размаўляюць пра беларусаў, узгадваюць імя гэтага найвялікшага патрыёта сваёй Бацькаўшчыны, які ў іх вачох пакінуў самыя сьветлыя ўспаміны.

Гісторыя яго жыцьця – гэта гісторыя змаганьня за беларускае слова сярод беларусаў у царкве, у школе, у сям'і, у грамадзкіх месцах, з калегамі па працы… І зразумела, што як і зараз, гэта было цяжкае і няўдзячнае змаганьне, перадусім таму, што самі беларусы не разумелі гэтага і саромеліся сваёй мовы, а многія нават лічылі, што культурны чалавек не павінен размаўляць па-беларуску. Гэтаму і супрацьстаяў ксёндз Адам, спрабуючы вывесьці мову свайго народа з сялянскіх кутоў да грамадзкага і публічнага карыстаньня, паказваючы, што гэтая мова такая ж самая як і польская, і руская, і літоўская.

Адам Станкевіч перадусім быў каталіцкім сьвятаром, які нёс Божае Слова па-беларуску. І гэтаму прысьвяціў усё сваё жыцьцё. Але, відаць, ня быў бы ён тым, кім быў, калі б быў вядомы толькі гэтым. Ён зрабіў вялікую культурна-гістарычна-грамадзка-асьветніцкую працу на Віленшчыне, каб абудзіць беларускі народ і дапамагчы яму адчуць сябе прадстаўнікамі нацыі, якая мае сваю слаўную гісторыю, культуру, літаратуру, традыцыю. Кс. Адам Станкевіч зьяўляецца аўтарам 19 кніжак і больш чым 2000 артыкулаў. І ня ўсе яны напісаныя на рэлігійныя тэмы. Значная частка кніг і артыкулаў прысьвечаная знакамітым беларускім дзеячом і пачынальнікам беларускага адраджэньня (Францыску Скарыну, Баброўскаму, Паўлюку Багрыму, Кастусю Каліноўскаму, Казіміру Сваяку і інш.), знакавым падзеям у гістарычным жыцьці беларускага народа, праблемам сёньняшняга дня, гісторыі царквы і яе месца ў жыцьці беларускага народа. Нягледзячы на такі шырокі спектр дзейнасьці, Адам Станкевіч быў доўгі час забаронены і забыты. І толькі з пачаткам 90 гг. XX ст. яго імя пачало вяртацца ў беларускую культуру. Але, зноў жа, варта адзначыць, што яго адраджэньне адбываецца вельмі павольна і зь вялікімі цяжкасьцямі. Скажам, для таго, каб у Вільні ўсталяваць мемарыяльную шыльду ў яго гонар, спатрэбілася амаль дзесяцігодзьдзе. І, думаю, асабліва не памылюся, калі скажу, што і сёньня ў Беларусі гэтае імя не вядомае шырокаму колу грамадзкасьці.

Другая асоба, якой было прысьвечана паведамленьне ў часе імпрэзы – гэта віленскі біскуп **Юры Матулевіч**. У студзені спаўняецца 85 гадоў з часу яго адыходу да вечнасьці. Нягледзячы на тое, што ён ня быў беларусам, за час свайго служэньня на біскупскім пасадзе ў Вільні надзвычай шмат сіл і намаганьняў прысьвяціў абароне беларусаў у каталіцкім касцёле і іх правоў на ўжываньне сваёй роднай мовы ў сьвятыні. Часам здзіўляе яго незвыклая любоў да нашага народа і палымянае жаданне яму дапамагчы. З-за чаго вельмі шмат трапляў у няміласць як да польскага каталіцкага духавенства на Віленшчыне (яно тады тут складала большасьць), так да польскіх уладаў (за часы, калі Вільня знаходзілася ў руках палякаў).

Ён быў бадай самым шчырым абаронцам правоў беларусаў-католікаў у сьвятыні. Верны свайму пакліканьню і складзенай прысязе, да канца апошніх хвілінаў свайго зямнога пілігрымаваньня да Вечнасьці, застаўся Слугой Хрыста і Касцёла, адкідваючы ўсе палітычныя сістэмы і сьветапогляды, з чыстым сумленнем увайшоў у Божае Валадарства. Быў з усімі пакрыўджанымі і занядбанымі, горача бараніў тых, каго нават не хацелі прызнаваць на палітычнай мапе свету, імкнуўся да іх, агортваў сваёй бясконцай любоўю і рабіў усё, каб і яны адчувалі сябе не пакінутымі, не другасортнымі, а такімі ж дзецьмі Божымі, як і моцныя гэтага сьвету.

Быць усім для ўсіх, любіць усіх аднолькава – жыцьцёвае крэда айца Матулайціса. Ды спаўняць яго было надзвычай складана і практычна немагчыма ў той час. Але сьвятасьць чалавечае асобы, яго шматграннасьць поглядаў і разуменьне рэальнае сітуацыі, і жаданьне быць годным пасьлядоўнікам свайго Настаўніка Хрыста, ня толькі дапамагалі, але і рабілі яго такім, якім ён быў. На сьвет і касьцёл ён глядзеў не цераз прызму палітычнага ці нацыянальнага светаўспрыманьня, а толькі як на Божае дзецішча, дзе ўсе аднолькавыя. Няма важнейшай і сьвяцейшай мовы ці нацыі. І менавіта такі погляд на жыцьцё ўзвялічваў гэту асобу, узносіў яго над будзённасьцю і шэрасьцю дня.

Галоўнай яго заслугай для Беларусі і беларусаў лічу заснаваньне беларускага кляштара айцоў Марыянаў у Друі і жаночага манаскага ордэна Сясьцёр служак Езуса ў эўхарыстыі, задача якіх, па задуме айца Матулевіча, заключалася ў працы зь беларускім вясковым насельніцтвам. І сёньня менавіта гэтыя ордэны ў Беларусі зьяўляюцца самымі беларускамоўнымі. Варта адзначыць, што з Друйскага кляштара айцоў Марыянаў выйшла значная частка беларускіх дзеячоў: Язэп Германовіч, Чэслаў Сіповіч, Тамаш Падзява і інш.

У студзені адзначылі 120-годзьдзе з дня нараджэньня выбітнага сына Віленшчыны, аўтара беларускай граматыкі **Браніслава Тарашкевіча**. Ён быў адным з найбольш актыўных дзеячоў у Вільні ў першай чвэрці XX ст. Зь яго імем і пры яго непасрэдным удзеле і падтрымцы зьвязваюць стварэнне беларускіх школаў на Віленшчыне ў часы Першай сусьветнай вайны і ў пачатку 20 г.г. XX ст. (перыяд Сярэдняй Літвы). Створаная ім беларуская граматыка існуе і па сёньня. Многія беларусы так і засталіся вернымі менавіта граматыцы Тарашкевіча і да гэтага часу ня прызнаюць „зьдзекаў“ над беларускай мовай, зробленых у 1933 годзе і зараз, у 2010 г. Думаю, прыйдзе час, і гэтая граматыка з пэўнымі зьмянень)нямі і дапрацоўкамі ляжа ў афіцыйны правапіс беларускай мовы.

***

У другой частцы імпрэзы адбыўся справаздачна-выбарчы сход пад час якога старая рада ТБК склала свае паўнамоцтвы і была абрана новая рада.Сход праводзіў сябра ТБК Васіль Акуневіч.



*Выступае Алесь Адамковіч*

У справаздачнай прамове старшыня ТБК Хведар Нюнька распавёў аб дзейнасьці Таварыства за апошнія два гады. У яго выступленьні канцэнтраваліся два аспекты: цяжкое складанае фінансавае становішча ТБК і сёньняшняя праблема падзелу беларусаў на „чэсных" і „нячэсных". Калі ў канцы 80 – пачатку 90 г.г. XX ст. беларусы ішлі адным фронтам і змагаліся за нацыянальнае адраджэньне, то пасля абраньня першага прэзідэнта Беларусі, яны раскалоліся і сёньня асноўнай сваёй масай русіфікуюцца. Той, хто павінен быў бы быць гарантам абароны незалежнасьці і беларускасьці стаў яе магільшчыкам. У выніку мы страцілі вельмі шмат і страцім яшчэ больш. Калі зрусіфікаваныя беларусы ў Беларусі яшчэ адчуваюць сябе беларусамі, то ў замежжы гэтага няма. Пачалася поўная асіміляцыя. Аб чым сведчаць вынікі перапісаў у розных краінах, дзе колькасьць беларусаў за апошнія 10 гадоў катастрафічна зьменшылася. Такога ня было б, калі б Беларусь была беларускай і дзяржава праводзіла беларускую палітыку.

Другая праблема – гэта фінансавая. Сёньня Таварыства ня ў стане аплочваць камунальныя паслугі за офіс. Літоўская дзяржава ня выдзяляе на гэта сродкаў. Зразумела, што гэта павінна была б рабіць Беларуская дзяржава тытульнай нацыі. Але яна далёкая ад праблемаў беларусаў і нават зацікаўленая ў іх хутчэйшай асіміляцыі, таму маем тое што маем і Таварыства практычна выжывае, дзякуючы самаахвярнай працы нешматлікіх сяброў. Пазыка за аплату камунальных паслугаў складае больш за 15 000 літаў.

Пасьля таго з дакладам ад імя рэвізійнай камісіі выступіла Леакадыя Мілаш, якая зачытала справаздачу ад прыбытках і расходах ТБК і падцьвердзіла афіцыйнымі дакументамі пазыкі Таварыства.

Затым адбыліся выбары новай рады ТБК і рэвізійнай камісіі.

У склад новай рады ТБК увайшлі: Акуневіч Васіль, Балаховіч Крыстына, Эванс Ніна-Барбора, Гульбіновіч Вацлаў, Нюнька Хведар, Радзюкевіч Валеры, Трусаў Алесь, Яўмен Артур, Адамковіч Алесь.

У склад рэвізійнай камісіі ўвайшлі: Галіна Кеўлічэне (старшыня), Таццяна Скорэне, Вера Віршычэне .Скарбнікам абралі Леакадыю Мілаш.

З 28 студзеня 2012 года са старымі задачамі па захаваньні беларушчыны ў Літве распачала працу чарговая Рада ТБК, якая і на далей будзе стаяць на пазіцыях пабудовы дэмакратычный, незалежнай, еўрапейскай і беларускай Беларусі пад несьмяротнымі сімваламі бел-чырвона-белым сьцягам і старажытным гербам Пагоня.

Старшынём ТБК у Літве на 2012-2013 год адзінагалосна абраны Хведар Нюнька

Алесь Адамковіч, Вільня, 30 студзеня 2012 г.

## С П О Р Т

# ВІКТОРЫЯ! Азаранка выйграла Australian Open, стала першай ракеткай сьвету

Сёньня ў Мэльбурне прайшоў фінал Australian Open — першага ў сэзоне турніру з сэрыі «Вялікага слэму». У вырашальны матч жаночых спаборніцтваў выйшлі наша Вікторыя Азаранка і расіянка Марыя Шарапава.

Зрэшты, і Шарапава ня чужая для Беларусі. Яе бацькі былі родам з Гомеля, але пасьля Чарнобыльскай катастрофы пакінулі Беларусь. Марыя нарадзілася ў Нягані. Шарапава тройчы выгравала турніры «Вялікага слэму», была першай ракеткай свету.

Вікторыя на два гады малодшая за расіянку. Сёлетні турнір у Мэльбурне — гэта першы ў яе кар'еры фінал «Вялікага слэму». .



Цікава, што гэтыя дзьве спартсмэнкі зьяўляюцца аднымі з самых галасістых. На кортах Мельбурну Шарапава крычала пасля адбітых мячоў з гучнасьцю 98 дэцыбел, а Азаранка — 91.

Сама сустрэча пачалася ня вельмі ўдала для Азаранкі. Яна прайграла сваю падачу. Але на шчасьце, амаль адразу адыграла падачу — 2:2.

Потым кожная з тэнісістак бралі свае падачы. Хоць адчувалася, што нявымушаных памылак у Шарапавай усё ж заўважна болей. Вырашальным момантам першага сэту адбыўся пры ліку 4:3 на карысьць Азаранкі. Беларуска зноў змагла ўзяць чужую падачу, пасля чаго без цяжкасьцяў справілася са сваёй — 6:3.

Другі сэт для нашай спартсмэнкі пачаўся вельмі ўдала. Яна адразу зрабіла брэйк. Прычым, Шарапава дапусьціла некалькі зусім неабавязковых памылак. «Гэта будзе ўдар па псіхіцы Шарапавай», — зазначыў каментатар на «Еўраспорце».

Здаецца, што ад гэтага шоку расіянка адыйсьці так і не змагла. Вікторыя без праблем скончыла сэт на сваю карысьць — 6:0. Шанцаў у Шарапавай ня было ніякіх. Такую гульню злавіла Віка.

За перамогу Вікторыя зарабіла 2,3 мільёны даляраў. Але самае галоўнае — яна ўпяршыню ў гісторыі стала першай ракеткай сьвету.

Такім чынам, Віка ўзыйшла на першую ступеньку рэйтынгу ў 22 гады.

**Крыніца: Наша Ніва**, 28 студзеня 2012

Чытаць цалкам: **http://nn.by/?c=ar&i=67389**

# Славянскія крыкі ў Мельбурне

*22-гадовая мінчанка Вікторыя Азаранка ўпяршыню за сваю кар'еру выйграла адкрыты чэмпіянат Аўстраліі — адзін з чатырох турніраў **"Вялікага слэму,"***** *якія зьяўляецца самым прэстыжным і высокааплачным тэнісным спаборніцтвам у сьвеце.*

**"Наша" Маша...**

Беларуска перамагла ў паўфінале леташнюю чэмпіёнку легендарную Кім Клійстэрс з Бельгіі — 6:4, 1:6, 6:3, а ў фінале "разграміла" 24-гадовую расіянку Марыю Шарапаву — 6:3, 6:0. Узнагародай Вікторыі сталі 2 мільёны 180 тысяч долараў і тытул першай ракеткі сьвету. Да яе зрабіць такое нікому зь беларусак не ўдавалася.

Фінальнае супрацьстаяньне Азаранкі і Шарапавай чакалася з надзвычайнай цікавасьцю хаця б таму, што мела ярка выяўлены славянскі падтэкст. Бацькі Шарапавай таксама зь Беларусі. Яны зьехалі з Гомеля ў Расію пасьля чарнобыльскай катастрофы і пасяліліся ў Нягані (Ханты-Мансійская аўтаномная акруга), дзе і нарадзілася Маша. А яе бабуля, Галіна Дзям'янаўна, дагэтуль жыве ў Гомелі і хварэе за ўнучку, якая зрэдку яе наведвае. Для Машы гомельскія карані ня пусты гук: яна заснавала адмысловы фонд, які ажыццяўляе падтрымку шэрагу праектаў у раёнах, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС у Беларусі, Расіі і Украіне, а таксама фінансуе ў нашай краіне праграму стыпендыяў для студэнтаў — выхадцаў з пацярпелых ад тэхнагеннай катастрофы раёнаў. З 2007 года Шарапава — амбасадар добрай волі Праграмы развіцьця ААН.

Вікторыя Азаранка таксама заўважана ў дабрачыннасьці. У лістападзе 2010 года яна згуляла ў менскім Палацы спорту паказальны матч з першай ракеткай сьвету датчанкай Каралін Вазняцкі (у яе таксама славянскія карані — польскія). Тады на корце зьявіўся і прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

Абедзьве дзяўчыны — і Вікторыя, і Марыя — цяпер жывуць далёка ад родных сьцен: Азаранка — у цэнтры княства Манака Монтэ-Карла, побач з багачамі з усяго сьвету. Шарапава асталявалася ў курортным Брэдэнтане (штат Фларыда, ЗША). Дарэчы, там жыве і знакаміты беларускі тэнісіст Макс Мірны. А трэніруе Машу зь нядаўняга часу былы партнёр Мірнага па зборнай Беларусі ,Уладзімір Валчкоў.

**... і наша Віка**

На тэнісную адукацыю Вікторыі істотна паўплывала мінскі трэнер Надзея Драздова. Потым зь Вікай доўга працаваў партугалец Антоніа Ван Грычэн, а апошнія два гады яе курыруе француз Сэмюэль Сюмік. Менавіта ён навучыў Віку, якая славілася нястрыманасьцю і брыдкаслоўем на корце, валодаць сабой і не расплюхваць нэрвовую энергію. Раней праз усплёскі раздражненьня Азаранка страчвала кантроль над сабой і цярпела паразы ад больш слабых саперніцаў. Мудры француз паступова "вылечыў" экспрэсіўную беларуску. Гэта дазволіла ёй дасягнуць істотнага прагрэсу ў выніках.

Першых значных посьпехаў мінчанка дамаглася ў 16-гадовым узросьце: тады яна выйграла адкрыты чэмпіянат Аўстраліі і яшчэ некалькі турніраў Вялікага слэму ў юніёрскім разрадзе, а таксама стала лідарам сусьветнага юніёрскага рэйтынгу. Праз шэсьць гадоў яна паднялася на вяршыню ў дарослым тэнісе.

За дзень да вырашальнага матчу Шарапава праігнаравала традыцыйную прэс-канферэнцыю, затое там саліравала Азаранка. Яна, у прыватнасьці, сказала: "Беларусы і рускія — цалкам розныя нацыі. Адзінае, што нас аб'яднoўвае, — дык гэта тое, што мы гаворым на адной мове. Хаця ў нас ёсьць і свая мова. Наагул, не хацела-б у гэта паглыбляцца, але за межамі сталіцы можна ўбачыць акуратныя, чыстыя гарады. Лічу, гэта шмат аб чым кажа. Думаю, па характары беларусы вялікія працаўнікі".

**Самы гучны фінал**

Да фіналу ў Мельбурне Віка і Маша сустракаліся на корце шэсьць разоў, і кожная атрымала па тры перамогі. Падчас іхнай апошняй сустрэчы беларуска, прайграючы, уголас груба вылаялася па-ангельску. Гэта стала прадметам абмеркаваньня інтэрнацыянальных СМІ. Зрэшты, Віка пасьпяшалася запэўніць сьвет у тым, што да саперніцы яе грубіянства ня мае ніякага дачыненьня.

Для Шарапавай фінал турніру Вялікага слэму быў ужо шостым (тройчы яна перамагала), а для Азаранкі — першым. Таму Віка напярэдадні дрэнна спала, хвалявалася звыш меры, згараючы ад нецярпеньня: калі ж пачнецца фінал? Узрушанасьць прыкметна скоўвала беларуску. У пачатку сустрэчы яна зрабіла адразу дзьве падвойныя памылкі і дазволіла расіянцы павесьці — 0:2. Трэці гейм — яшчэ адна падвойная памылка беларускі, але затым Азаранка дала сабе рады. "У той момант я імкнулася гуляць агрэсіўна і старалася як мага радзей памыляцца", — распавяла яна пасьля матчу. Вельмі хутка ініцыятыва перайшла ў яе рукі, і нэрвавацца стала ўжо Шарапава. Пасьля ліку 3:3 Азаранка выйграла дзевяць геймаў запар. У выніку на яе долю прыпала ўсяго 12 нязмушаных памылак, у апаненткі іх набралася 30. Так наймацнейшыя нэрвы сталі закладам посьпеху.

Гэты фінал стаў, верагодна, самым гучным у гісторыі тэнісу. Абедзьве дзяўчыны вядомыя тым, што ў момант удару па мячы аглушальна крычаць. Сіла Вікавых гукаў дасягае 95 дэцыбел, Машавых — 105! Характэрна, што, бываючы ў родным Менску, Вікторыя паводзіць сябе нягучна: яна катэгарычна адмаўляецца даваць інтэрв'ю беларускім журналістам, папракаючы іх у непрафесіяналізьме.

**Крыніца**: Міхась МОШЫН, *Тут і Цяпер*, www.svaboda.net., 31 студзеня 2012

*** Па-ангельску гэтыя турніры завуць **Grandslam Tournaments** — ад слова **slam** (вымаўляецца СЛЭМ = непераможнае становішча ў картавых гульнях ). У беларускай прэсе іх чамусьці завуць турнірамі "Вялікага Шлему "

**КРЫВІЯ - Культурна-асьветніцкая газэта**
Выданьне беларускай дыяспары ў Чэхіі
MK ČR E 16919
РЭДАКЦЫЯ
Юрка Станкевіч
Ганна Васілевіч
Адрас рэдакцыі: Časopis KRYVIJA
ul. Malešická 553/65, 108 00 Praha 10